*Ліст у рэдакцыю*

## З АГНЁМ НЕ ЖАРТУЮЦЬ

За 12 месяцаў мінулага года ў Менску здарылася 2086 пажараў, і толькі матэрыяльныя страты склалі больш за 24,5 мільярда рублёў. А самае жахлівае, што ў пажарах загінула 52 чалавекі, а яшчэ траўмавана 51. Пры гэтым павялічылася гібель дзяцей: восем дзетак загінула і чацвёра атрымалі цяжкія траўмы. Для параўнання: за гэты ж перыяд 1995 года пажар забраў жыццё пецярых дзяцей, а двое атрымалі цяжкія апёкі.

Асноўныя прычыны пажараў: неасцярожнае абыходжанне з агнём, няўважлівасць пры курэнні, парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры карыстанні электранагравальнымі і газавымі прыладамі, а таксама дзіцячае свавольства.

Часта трагічна заканчваюцца пажары па віне асобаў, якія знаходзяцца ў нецвярозым стане. Дастаткова сказаць, што з усіх загінуўшых пад час пажараў у Менску трыццаць чалавек былі п'яныя.

Вось адзін з такіх прыкладаў. Адна з жыхарак па вуліцы Тыражнай заўважыла дым, які прасочваўся з-пад дзвярэй гаража каля дома №35. Пастукаўшы ў акно прыватнага жылога дома, разбудзіла гаспадыню. Разам яны паспрабавалі адчыніць дзверы гаража, ім гэта не ўдалося. Толькі пажарнікі здолелі ў гаражы адчыніць дзверы і ўбачылі там двух мёртвых чалавек.

Пазней праясніліся акалічнасці трагедыі. Напярэдадні вечарам тут 37-гадовы гаспадар гаража разам са сваёй знаёмай выпівалі і курылі. Адна з цыгарэт, што ўпала на матрац, мабыць, і была прычынай пажару. Стомленыя спіртным, мужчына і жанчына заснулі. Прапалены матрац разгараўся, дым паступова запоўніў усё памяшканне гаража, што і стала прычынаю смерці.

Яшчэ прыклад. 27 лістапада 1996 г. на базу "Мостабуд" (тэрыторыя прамвузла Шабаны) прыехаў гружаны МАЗ з Гомельскай вобласці. Калі стала змяркацца, вадзіцель вырашыў заначаваць у кабіне. Каб не замерзнуць, уключыў партатыўную газавую плітку. Уначы вартаўнік убачыў — МАЗ гарыць! Калі ж прыехала "хуткая", ратаваць ужо не было каго — вадзіцель задыхнуўся ад едкага дыму. Трое дзяцей засталіся сіротамі.

Колькасць пажараў з-за наўмысных падпалаў у параўнанні з 1995 г. павялічылася на 40 працэнтаў, на 24 працэнты — па віне дзіцячага свавольства.

Дарагія землякі, выхавацелі і бацькі, помніце пра дзяцей і цікаўцеся, чым яны займаюцца ў вольны час — магчыма, вы прадухіліце не адну трагедыю.

Неабходна адзначыць, што пажару можна лёгка пазбегнуць, калі быць больш уважлівымі да сваіх паводзін і ставіцца да агню вельмі асцярожна.

**Аляксандр Якіменка, пажарны інспектар Цэнтральнага раёна г.Менска.**

## Магістры "металу" — назаўсёды!



Ці пазнаеце на фотаздымку гэты гурт? Між іншым, у свой час музыкі гэтага калектыву разам з "Бондай" і "Мрояй" стваралі гісторыю беларускага рок-н-ролу.

Сёлета мінула 10 гадоў з таго часу, як "Магістрат" — так зваўся гурт, які вы бачыце на здымку,— упершыню дэбютаваў на першым фестывалі беларускамоўнага рока "Тры колеры" ў Менску.

Міналі гады, але і зараз лепшыя кампазіцыі "Магістрату" з поўным правам могуць быць упрыгожваннем анталогіі беларускага рока.

Успомнім мелодыі песень "Фасфарычнае святло" і "Апошні дзень ляноты" (на вершы С.Карсака), "Белая гадзюка" (на верш А.Сыса), "Мірскі замак" (верш П.Ломана). Ну а іх песня "Героям Грунвальда" — сапраўдны музычны помнік у стылі "гэві-метал" гэтай слаўнай даце у гісторыі ВКЛ!..

... Драма ўсіх музыкаў тых часоў — беднасць, калі набыць музычны інструмент азначала адмовіцца ад усяго іншага, што запаўняе чалавечае жыццё. Гэтая акалічнасць стала прычынай асабістай драмы кіраўніка "Магістрата" Ігара Нікановіча і распада гурта.

Але засталася памяць пра "Магістрат", як пра самы малады і гучны калектыў таго часу. Чаго, дарэчы, не скажаш пра запісы калектыву. У тыя часы здавалася ўсё вечным і нязменным — лічылася, што лепшыя запісы, пласцінкі і касеты наперадзе. Але і гэта не спраўдзілася.

Засталіся лічаныя адзінкі аматарскіх запісаў. Можа ў каго яны і засталіся? Дык давайце разам выпраўім тую несправядлівасць, якая зафіксавана на пяцікасетным зборніку "Залаты фонд беларускага рок-н-рола", дзе няма "Магістрата" — сапраўднай зоркі беларускага гэві-рока. Іх песні павінны быць на касетах і даступныя сучасным слухачам.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

*Клуб перакладчыкаў*

## Сабраліся абмяркоўваць... Аказалася — няма чаго

Сваё чарговае пасяджэнне секцыя мастацкага перакладу Саюза беларускіх пісьменнікаў прысвяціла запланаванай тэме, якую можна выкласці так: змест і мастацкі ўзровень перакладных выданняў серыі "Школьная бібліятэка", якую ў асноўным выпускае выдавецтва "Юнацтва". Дасведчаны чытач зразумее, што тэма гэта не марная. Гаворка ідзе пра эстэтычнае выхаванне моладзі, пачынаючы, як гэта і належыць, ад школьнай парты, пра фармаванне духоўнасці, культуры асобы, г.зн. будучыні грамадскай супольнасці народа Беларусі. Вядома, пісьменнікі-перакладчыкі паэзіі і прозы сусветнай літаратуры не могуць быць ад гэтага працэсу ўбаку.

Аднак удзельнікі абмеркавання, да якога яны падступаліся і раней, хутка зразумелі, што гаворкі па вызначанай тэме не будзе — па той простай прычыне, што большыня сябраў секцыі тых перакладных выданняў з серыі "ШБ" нават у вочы не бачыла. Размова міжволі звялася да недарэчнасці сітуацыі, што склалася на рынку беларускамоўных кніжных выданняў, якія выходзяць у названай серыі.

Кіраўнік секцыі мастацкага перакладу і сувязяў СБП Іван Чарота, які вёў пасяджэнне, канстатаваў:

— Мы збіраліся разгледзець пытанні, звязаныя з выпускам серыі "Школьная бібліятэка" ў кантэксце дзейнасці выдавецтва "Юнацтва", меркавалі, што праблемы, якія нас турбуюць, закладзеныя менавіта тут. А турбуе нас тое, што кніжкі гэтай серыі праходзяць незаўважанымі літаратурнай грамадскасцю. Як ні дзіўна, яны нідзе не прадаюцца і не трапляюць у рукі даследнікаў, крытыкаў, рэцэнзентаў. Гэта сведчыць пра тое, што кнігі гэтай серыі не з'яўляюцца дзейсным чыннікам выхаваўчага працэсу. Дый літаратурнага, бо выхад кожнай кніжкі ёсць фактар літаратурнага працэсу. Канкрэтных заўваг па якасці перакладу, па змесце твораў не выказваецца, бо творы гэтыя ані не функцыянуюць наогул. Гэта вялікі, недапушчальны прабел і недахоп.

А ці не варта было б, гаварыў далей І.Чарота, арганізаваць сур'ёзнае абмеркаванне ў друку кніг гэтай серыі? Абмеркаванне магло б прайсці і на старонках "Настаўніцкай газеты" (гэта ж яе "хлеб"!), у літаратурных выданнях, напрыклад, у "ЛіМе". Гэта парафія і газеты "Наша слова".

Прадстаўнік выдавецтва "Юнацтва" загадчык рэдакцыі літаратуры для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту Уладзімір Марук паведаміў, што ў іх па "ШБ" у мінулым годзе выйшла 14 назваў кніг замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову. Сярод іх пад адной вокладкай выйшлі Олдрыдж, Хэмінгуэй і Сент-Экзюперы, Э.Ажэшка і А.Міцкевіч, Петрарка, Байран і Верлен, п'есы Шэкспіра, Мальера і Шылера... Вось бы і пагаварыць пра якасць перакладу, пра мову, стыль, асаблівасці творчай манеры замежных аўтараў. І пра тое, як беларускім перакладчыкам удаецца данесці ўсё гэта да юнага чытача.

Ды вось дзівосы: у дзяржаўных структурах, супрацоўнікі якіх павінны дбаць пра асвету і выхаванне моладзі, падобна, і ведаць не хочуць пра гэтую зацікаўленасць літаратурнай і навуковай грамадскасці. Нехта распарадзіўся, каб выданні серыі "ШБ" не былі ў продажы. З усіх удзельнікаў пасяджэння толькі ў Вячаслава Рагойшы аказалася на руках кніжка, зробленая ім сумесна з Таццянай Кабржыцкай, Міхайлы Кацюбінскага і Лесі Украінкі ў іх перакладзе з украінскай — з тых некалькіх так званых аўтарскіх асобнікаў, якія выдзяляе выдавецтва. Але ж гэтага часцей за ўсё бывае мала.

— Калі кніжка была, як кажуць, на падыходзе, — казаў В.Рагойша, — я заказаў у "Кнігарні пісьменніка" 50 экземпляраў, каб пасласць сябрам на Украіну, у музеі М.Кацюбінскага ды Л.Украінкі. Заказ прынялі, але ён не быў выкананы, і не па віне кнігарні.

На гэта ж самае скардзіўся пісьменнік Уладзімір Казбярук.

Што перашкаджае задаволіць выданнямі серыі "ШБ" не толькі школы, школьныя бібліятэкі ды ўсіх, хто пажадае набыць гэтыя кніжкі? Аказваецца, ёсць пры Міністэрстве адукацыі і навукі РБ загадкавы "Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання". Ён, гэты цэнтр, і распараджаецца ўсім, што датычыць выдання серыі "ШБ": фармуе план, вызначае аўтараў і творы, тыражы, кошт кніг і г.д. Цэнтр ад імя дзяржавы дае грошы і, значыць, "заказвае музыку". А чаму б не выдаць падрыхтаваную кнігу дадатковым тыражом, каб пусціць яе ў вольны продаж?

— Справа ў тым, — патлумачыў У.Марук, — што за дадатковы тыраж кнігі датацыя выдавецтву зніжаецца напалову. На яго трэба асобна афармляць фінансавыя дакументы, што само па сабе ўскладняе справу. Акрамя таго, кнігагандаль бярэ кніжкі ў продаж на тэрмін не меней як на тры месяцы. Нават калі кніга разыходзіцца, грошы нам пералічваць не спяшаюцца. Выдавецтва нясе страты.

Такім чынам, праблемы, якія хвалююць пісьменніцкую грамадскасць, стварае не выдавецтва. Яно пастаўлена ва ўмовы толькі тэхнічнага выканаўцы задання, спушчанага зверху. А там, "наверсе", падобна, мала дбаюць пра развіццё мастацкага перакладу. Калі ў мінулым годзе, як адзначалася, перакладных выданняў у "Юнацтве" па серыі "ШБ" было 14 пазіцый, дык на 1997 год іх "спушчана" выдавецтву толькі тры назвы.

— Намецілася тэндэнцыя, — гаварыў Ул.Марук, — што нам не дадуць выдаць ніводнай перакладной кніжкі. Значыць, замежная літаратура ў нашых школах будзе выкладацца на расійскай мове (!).

Іван Чарота як прадстаўнік вышэйшай школы (БДУ) адзначыў гэтую ж тэндэнцыю і ў ВНУ. Ідзе непрыкметны, але паслядоўны пераход выкладання замежных літаратур на расійскай мове. Калі канцэпцыя нацыянальнай культуры не будзе трымацца на роднай мове, а будзе дзейнічаць апасродкаваны канал выкладання праз тую ж расійскую мову, значыць, пытанне аб нацыянальнай культуры заганяецца ў кут. Трывожна і недальнабачна.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

## Крымінал-дайджэст

### Коней дагналі на "газіку"

На коней прыкметна павысіўся попыт, у тым ліку за межамі Беларусі. Бо куды б яшчэ маглі падзець зладзеі трох гнедкаў, якіх яны ўкралі з калгаснай фермы ў вёсцы Васькавічы на Слаўгарадчыне. Аператыўна атрымаўшы паведамленне аб крадзяжы, прафесійна спрацавала мабільная група Слаўгарадскага раённага аддзела ўнутраных спраў у складзе старшага оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку І. Баруценкі, участковага інспектара В. Аўдзеенкі, інспектара адміністрацыйнай практыкі ДАІ В. Ніканенкі ды міліцыянера-вадзіцеля І. Меженкова. Яны хутка разабраліся ў сітуацыі і той жа ноччу наладзілі пагоню. Крымінальную групу міліцыянеры затрымалі на досвітку каля вёскі Рогі.

### Пагасцявалі — і назад, у Расію

Усе адзначаюць, што бескантрольны ўезд у нашую краіну расійскіх грамадзян зрабіў Беларусь сапраўдным транзітным калідорам для тых, хто імкнецца з Усходу незаконным шляхам трапіць на Захад. Каго толькі ні даводзіцца затрымліваць беларускай міліцыі з падобных аматараў. Зусім нядаўна участковы інспектар Заводскага раёна Менска прыкмеціў на вуліцы Бачылы групкі людзей, занадта ўжо загрузлых для цяперашняга беларускага надвор'я, якія, да таго ж, стараліся перамяшчацца як мага непрыкметней. Зацікавіўшыся незнаёмцамі, участковы інспектар "выйшаў", як гэта называецца, на кватэру супрацоўніцы сталоўкі № 102, а там атрымаў магчымасць сустрэцца ажно з 25 грамадзянамі далёкай ад Беларусі паўднёвай Шры Ланкі. На гаспадыню кватэры і яе экзатычных гасцей, якія парушылі правілы транзітнага праезду праз Беларусь, былі састаўленыя адміністрацыйныя пратаколы, а затым візіцёры цягніком былі накіраваныя назад у Расію, адкуль яны з'явіліся.

### Зброя мінулай вайны ўсё яшчэ мае попыт

Пасля сканчэння вытворча-тэхнічнага вучылішча юны жыхар вёскі Брухава Валерый Е. на машынах працаваць не змог, бо з-за кантузіі пасля выбуху снарада пачаў губляць зрок. Прадастаўлены самому сабе, ён узяўся за стары занятак — збіраць зброю на месцах баёў мінулай вайны. Гэтым ягоным "хобі" зацікавілася жыхарка суседняга гарпасёлка Арэхаўск, якая знайшла пакупнікоў на старую зброю, а для зручнасці "бізнесу" зрабіла са сваёй кватэры сапраўдны арсенал. Так, калі аператыўнікі міліцыі з'явіліся туды з ордэрам на вобыск, яны былі нямала здзіўлены: у розных закутках кватэры былі рассаваны 34,5 кілаграма трацілу, выплаўленага са снарадаў, 30 гранат Ф-1, абрэз вінтоўкі, вінтоўка Мосіна, аўтамат ППШ, тры сотні патронаў да яго. А ў дадатак і ў хаце Валерыя Е. пры вобыску знайшлі супрацьтанкавае ружжо Дзегцярова і 16 патронаў да яго.

За незаконнае набыццё, захоўванне і збыт зброі і боепрыпасаў супраць абодвух "прадпрымальнікаў" была ўзбуджана крымінальная справа. Пасля выраку Дубровенскага раённага суда справу вырашылі ў парадку нагляду прааналізаваць у Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

**Па матэрыялах прэс-цэнтра МУС РБ падрыхтаваў Л. М.**

## Даты і падзеі ў лютым

**14** — 170 гадоў з дня нараджэння (1827) Аляксея Віктарава, расійскага археографа, бібліёграфа і гісторыка кнігі, які ў 1867 годзе ўпершыню апісаў Скарынаў "Псалтыр".

— 90 гадоў з дня нараджэння (1907) Алеся Звонака, паэта, драматурга, крытыка, перакладчыка (больш вядомы пераклад "Віцязя ў тыгравай шкуры" Шата Руставелі).

— 60 гадоў з дня нараджэння (1937) Міхася Стральцова, празаіка, паэта, літаратуразнаўца.

**15** — 85 гадоў з дня нараджэння (1912) Навума Перкіна, літаратуразнаўца, крытыка.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1937) Валянціна Рабкевіча, пісьменніка, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук.

**16** — 240 гадоў з дня нараджэння Юльяна Урсына Нямцэвіча, паэта, драматурга, удзельніка паўстання 1794 года, ад'ютанта і сакратара Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. У кнігах "Дзённік маіх часоў" і "Гістарычныя падарожжы..." апісаў Бярэсце, Гародню, Слонім, Наваградак, побыт беларускіх сялян.

— 130 гадоў таму (1867) мураўёўская газета "Виленский вестник" пад рубрыкай "Адказы рэдакцыі" паведамляла ў Менск Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, што ягоны верш не будзе надрукаваны, і, наогул, "яна лічыць больш чым бескарыснымі спробы стварэння беларускай штучнай літаратуры".

— 95 гадоў з дня нараджэння (1902) пісьменніка Рыгора Мурашкі.

**17** — 160 гадоў з дня нараджэння (1837) Канстанціна Ельскага, заолага, падарожніка.

— 100 гадоў таму (1897) у Віцебску адзначылі 25-годдзе літаратурнай дзейнасці Мікалая Мікалаевіча Вакулоўскага.

— 80 гадоў таму (1917) Беларускі тэатр у Вільні ставіў "Паўлінку" Янкі Купалы.

**18** — 75 гадоў з дня нараджэння (1922) мастака Міхаіла Савіцкага, народнага мастака СССР.

**19** — 225 гадоў таму (1772) у Вене быў паўтораны (пасля падпісання 6 лютага ў Пецярбургу) акт дамовы пра разбор Рэчы Паспалітай.

**Падрыхтаваў З. С.**

Згадкі

## ЧАКАЛІ МАРЦІНКЕВІЧА...

У 1990 годзе Кіеўская студыя дакументальна-хранікальных фільмаў завяршала выпуск дыяфільма "Дудар Беларускі" — пра В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Я як аўтар быў запрошаны ў Кіеў на апошнія ўзгадненні, удакладненні перад запускам дыяфільма ў тыраж.

Мой пастой быў заказаны ў гасцініцы студыі імя А. Даўжэнкі. Калі я прыехаў у згаданую гасцініцу, майго прозвішча, на маё здзіўленне, сярод зарэгістраваных у іхніх спісах нідзе не маглі знайсці. Што такое? Што здарылася? Мае кіеўскія апекуны мяне цвёрда запэўнілі, што гасцініца заказаная. Убачыўшы маю збянтэжанасць, разгубленасць, рэгістратарка пачала высвятляць: калі заказвалі гасцініцу, хто заказваў, адкуль я прыехаў.

Нарэшце знайшла:

— Ёсць у нас заказ з Менска. Але вашага прозвішча тут не бачу...

— А хто ж там з Менска у вас значыцца?

— Ды вось — нейкі Дунін-Марцінкевіч...

Я не паверыў сваім вушам.

— Хто, хто? — перапытаў.

— Дунін-Марцінкевіч... Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

— Дык гэтага ж чалавека ужо больш за сто гадоў як на свеце няма...

— Не ведаю — ёсць ці няма, а ў мяне так запісана — Марцінкевіч.

Мая студыйная куратарка з Кіева гэты казус растлумачыла так: "Калі заказвалі гасцініцу, адміністрацыя пацікавілася: якая мэта прыезду госця з Менска? Ім растлумачылі — прыезд звязаны з выпускам дыяфільма пра Дуніна-Марцінкевіча... Вось яны і зарэгістравалі гэтае прозвішча..." Ну і, відома, чакалі Марцінкевіча. А прыехаў, відома, я.

Але ўсё скончылася добра, памяркоўна. Пасмяяліся, перарэгістравалі заказ з Дуніна-Марцінкевіча на маё прозвішча. На тым усё скончылася.

**Ул. СОДАЛЬ.**

Чытаці?

## "З-НАД НЁМНА І ДЗВІНЫ"

Пад такой назвай выйшаў зборнік песень Станіслава Манюшкі на вершы аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Чачота. Укладанне зборніка належыць вядомаму літаратуразнаўцу Уладзіміру Мархелю, ён жа напісаў да яго грунтоўную прадмову. "З Янам Чачотам Станіслава Манюшку збліжаў адзін аб'ект любові, — чытаем у прадмове да зборніка, — беларускі мелас... Ствараючы песні на польскамоўныя тэксты Чачота, Манюшка ішоў такім самым шляхам, што і Чачот, — пераводзіў іх з фальклорнага стану ў акадэмічны".

Зборнік выйшаў у самым пачатку 1997 года, стаўшы прыкметнай з'явай нашай культуры. Перакладзеныя на беларускую мову вершы ўпісаліся ў музыку славутага кампазітара, наблізіўшы да нас абодвух творцаў.

**А. НІС.**

Замежжа

## Daewoo electronics: шляхі вялі праз Беларусь

Прадстаўнікі паўднёвакарэйскай карпарацыі Daewoo electronics вядуць перамовы аб магчымасці сумеснага з сталічным заводам "Гарызонт" выпуску тэлевізараў — паведамлены аб гэтым летась ці раз з'яўляліся ў беларускім друку.

Вядома, што электронная прамысловасць Беларусі пачала ствараецца амаль чатыры дзесяцігоддзі таму. Не менш добра вядома, што першы паўднёвакарэйскі каляровы тэлевізар з'явіўся на свет адносна нядаўна — у 1980 годзе, калі беларускія "Гарызонты" ўжо добра ведалі па ўсім СССР. Дык што ж прыцягнула ўвагу гасцей з Сеула ў Менску?

Адказ на гэтае пытанне просты: невысокая аплата працы работнікаў і гэткая ж невысокая якасць тэлевізараў менскай вытворчасці. Карэйцам было прапанавана наладзіць у Менску зборку тэлевізараў Daewoo, якія, маючы нізкую цану і высокую (дзякуючы карэйскай тэхналогіі і кантролю) якасць, маглі б прадавацца не толькі ў Беларусі і былых савецкіх рэспубліках, але і ў краінах Усходняй Еўропы.

Аднак спадзяванні беларусаў не апраўдаліся. Азнаёміўшыся з асаблівасцямі беларускай эканомікі і прамысловасці, прадстаўнікі канцэрна адмовіліся ад прапанаванага супрацоўніцтва.

А што ж Daewoo electronics? Пра далейшы лёс гэтай трэцяй па велічыні электроннай карпарацыі Паўднёвай Карэі паведаміў нядаўна замежны друк. Яна перайшла ў валоданне французскай кампаніі Thomson multimedia, якая дзякуючы таму ператварылася ў буйнейшага ў свеце вытворцу тэлевізійнага абсталявання — колькасць яго мае быць павялічаная з 9 000 000 да 17 000 000 камплектаў. Такім чынам да 2000 года Daewoo electronics плануе ўвайсці ў дзесятку буйнейшых у свеце вытворцаў хатняй электронікі і значна павялічыць долю сваёй прадукцыі на рынках ЗША і Еўропы.

Што тычыцца Беларусі, дык хаця нашая краіна не набыла новых рабочых месцаў, затое яе грамадзяне набылі магчымасць выбару: альбо патрыятычна купляць айчынныя тэлевізары, маючы 5% заводскага браку, альбо выкласці грошы за сабраны не імі Daewoo.

## Secам— на pal!

Гэта — не прапанова ўзбіць качгосьці на пал. SECAM — усяго толькі спосаб кадзіравання тэлевізійнага сігналу, прыняты за стандарт у СССР і атрыманы ў спадчыну, пятнаццаццю незалежнымі краінамі, што паўсталі на яго месцы. PAL жа, у сваю чаргу — адметны ад SECAMа тэлевізійны стандарт, прыняты ў большасці краінаў свету. Адрозненне паміж сістэмамі дастаткова значнае: сігнал спадарожнікавай тэлевізіі Германіі на тэлевізары савецкай вытворчасці, якія не маюць дэкодара, будзе пазбаўлены не толькі колеру, але і гуку.

Не выключана, што якраз гэта — магчымасць абмежаваць уплыў на грамадзян краіны тэлепраграмаў неадпаведнага зместу з краінаў замежжа — напрыклад, тае ж Расіі — падштурхнула ўлады Узбекістана да радыкальнага рашэння памяняць тэлевізійны стандарт. Кантракт на тэхнічнае пераабсталяванне Дзяржтэлерадыё Узбекістана ўжо падпісаны з канцэрнам SIEMENS. Праца пачалася летась, і ўжо ў наступным дзесяцігоддзі ўсе тэлепраграмы Узбекістана будуць, у адрозненне ад расійскіх ці беларускіх, ісці ў стандарце не SECAM D/K, а ў іншым — PAL B/G.

Ці не створыць гэта праблемаў для тэлегледачоў? Створыць, але выключна для аматараў перадачаў расійскай тэлевізіі. Затое Узбекістан здыме інфармацыйную заслону перад Заходняй Еўропай і блізкімі арабскімі краінамі, якія карыстаюцца тым жа стандартам PAL.

## Том і Джэры гавораць роднай мовай

Не кожны з нашых чытачоў можа дазволіць сабе набыць відэамагнітафон, бо кошт яго роўны некалькім дзесяткам беларускіх мінімальных заробкаў. Затое тыя, хто хатняе відэа ўжо мае, наракаюць, што якасць яго непазбежна горшая за якасць стандартнага тэлесігналу.

Нядаўна японская фірма NEC зрабіла крок насустрач як малазабяспечаным спажыўцам, так і аматарам якаснага відэа. Адной з апошніх распрацовак фірмы стаў відэаплэер Silicon Wiew. Ён мае выгляд невялічкай скрыначкі, якая змяшчаецца ў далоні. Каляровая карцінка вельмі высокай якасці высвечваецца альбо на вадкакрышталёвым экране плэера памерам у палову паштоўкі, альбо на падключаным да яго звычайным тэлевізары. Працягласць фільма пакуль што складае каля пяці хвілінаў, але неўзабаве мусіць павялічыцца да гадзіны, і гэта не мяжа. А самае галоўнае, нягледзячы на свае вельмі высокія спажывецкія якасці, Silicon Wiew каштуе ў некалькі разоў менш, чым звычайны відэамагнітафон.

Аднак, нягледзячы на свае шматлікія перавагі, новы плэер за межы Японіі патрапіў у колькасці папросту мізэрнай — каля дзесятка штук. Што стала таму прычынай?

Праблема ў тым, што адзінымі запісамі для гэтай рэчы, прызначанай найперш маладому пакаленню, сталі мультфільмы серыяла "Том і Джэры". А гавораць яны з экрана, і належыць, адзінай прынятай у Краіне ўзыходзячага сонца моваю — японскай.

## Спадчына Расіі

Быць спадкаемцам — справа не толькі пачэсная, але і адказная. Быць спадкаемцам СССР — а менавіта ім абвясціла сябе Расія — справа адказная ўдвая, бо за гады свайго існавання Савецкі Саюз меў розныя набыткі.

У 1909 годзе Расія падпісала Гаагскую канвенцыю 1907 года, якая, сярод іншага, забараняла рабаванне акупаваных тэрыторыяў. Сёння многія заходнія эксперты слушна ўважаюць, што гэтае пагадненне фактычна прызнаў і Савецкі Саюз, бо яшчэ на працэсе ў Нюрнбергу савецкі абвінаваўца заявіў: асобныя нормы міжнародных паводзінаў з'яўляюцца абавязковымі незалежна ад таго, ці падпісала іх нейкая краіна.

Магчыма, менавіта гэткае становішча Расіі, якая прызнае сябе спадкаемцам і СССР, і Расійскай імперыі, стала прычынаю таму, што не так даўно прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына Сяргей Ястржэмбскі заявіў: прэзідэнт хоча супольна з прадстаўнікамі Венгрыі стварыць рабочую групу дзеля вырашэння лёсу звыш сарака тысячаў мастацкіх твораў і антыкварных рэчаў, вывезеных савецкімі салдатамі з Венгрыі пасля Другой сусветнай вайны. Сёння, праз гады, венгры патрабуюць іх вяртання.

Венгры не першыя патрабуюць вяртання нарабаванага. Падобны клопат Расія ўжо мае з Германіяй, адкуль па сканчэнні той жа вайны скарбаў было вывезена непараўнальна больш, чым з Венгрыі — каля 200 000 твораў мастацтва і блізу двух мільёнаў каштоўных кнігаў, пераважна старадрукаў. Нямецка-расійскае пагадненне 1990 года прадугледжвае вяртанне ў Германію ўсіх вывезеных скарбаў, але за мінулыя гады расійскія чыноўнікі займаліся ці не выключна тым, што ўсяляк імкнуліся яго абысці. Летась Дзяржаўная Дума Расіі нават прыняла закон, згодна з якім вывезеныя па вайне скарбы па сутнасці нацыяналізаваліся. Праўда, гэты закон, супярэчны міжнароднаму праву, быў заблакаваны расійскім Саветам федэрацыі.

Расійскія палітыкі, якія сёння выступаюць супраць вяртання нарабаваных твораў культуры, сцвярджаюць: Расія мае права пакінуць іх сабе, бо ў гады Другой сусветнай вайны нямецкая армія нанесла Савецкаму Саюзу непамерныя страты. Аднак, з аднаго боку, міжнароднае заканадаўства не прадугледжвае падобных аргументаў, а з другога — акупацыя найбольш закранула Беларусь, Украіну ды акупаваныя перад вайной СССР краіны Балтыі. Тэрыторыі менавіта Расіі пад акупацыяй апынулася толькі нязначная частка.

Заходнія гісторыкі кажуць, што паміж стаўленнем да вядзення вайны, з аднаго боку, еўрапейцаў і амерыканцаў і, з другога — Расіі заўсёды існавалі разыходжанні ў такіх пытаннях, як стаўленне да палонных і да праблемы нарабаваных скарбаў — апошнія ў Расіі дагэтуль называюць трафеямі.

Гаагская канвенцыя аб культурных каштоўнасцях, падпісаная ў 1954 годзе, кажа: творы мастацтва ёсць культурнай спадчынай усяго чалавецтва і маюць быць даступнымі для пазнання кожнаму чалавеку. Францыя гэткім чынам апраўдвае існаванне калекцыяў Луўра, нарабаваных Напалеонам, а Вялікая Брытанія — паўстанне Брытанскага музея, мноства экспанатаў якога вывезена з былых брытанскіх калоніяў і Кітая. Але ў адрозненне ад англічан і французаў, расіяне, парушаючы канвенцыю 1954 года, да апошняга часу трымалі вывезеныя скарбы пад замком. І толькі нядаўна ў гэтай краіне адбыўся шэраг іх выставаў.

Аднак урады Германіі і Венгрыі найбольш хвалюе не затрымка ў справе вяртання іхняй культурнай спадчыны, а іншае. Яны ведаюць: расійскія музеі, якія не маюць сродкаў да існавання, у стане прадаць рэчы з сваіх фондаў багатым ананімным калекцыянерам. Гэта будзе азначаць іх страту назаўсёды.

## Албанія: гады гвалту

У 1991 годзе на вуліцах гарадоў Албаніі пачаліся сапраўдныя бaі паміж прыхільнікамі старога ўрада і апазіцыяй. Крэс ім паклала толькі перамога ў выбарах 1992 года Дэмакратычнай партыі, якая абяцала росквіт і свабоду. Сёння, праз пяць гадоў, пасля вельмі спрэчных леташніх выбараў у парламент Албаніі, многім здаецца, што былое вяртаецца.

Міжнародныя назіральнікі, якія ўвесну мінулага года наведалі краіну напярэдадні выбараў у парламент, з подзівам назіралі за тым, як спецыяльныя атрады паліцыі збівалі лідэраў апазіцыйнага руху і разганялі дэманстрацыі на плошчы Скандэнбег у цэнтры Тыраны. Пасля хвалі абурэння, якую гэта выклікала ва ўсім свеце, некалькі афіцэраў паліцыі атрымалі вымовы — і толькі.

Гвалт працягваўся надалей: сапраўдныя пагромы ў сталіцы краіны многа разоў выклікаліся няроўным стаўленнем уладаў да мітынгаў сваіх прыхільнікаў і працінікаў — адны з іх забараняліся, другія падтрымліваліся.

Прычынамі ўжо нядаўніх вулічных бунтаў стаў упадак некалькіх фінансавых пірамідаў, ад якога падманутыя ўкладальнікі страцілі каля 50 мільёнаў долараў. Выбух народнага гневу стаў вынікам падпалаў дзяржаўных установаў і нападаў на паліцыю. А намеснік прэм'ер-міністра краіны нават пабываў заложнікам ва ўдзельнікаў аднаго з буйных мітынгаў. Паліцыяй, паводле розных звестак, было затрымана ад 247 да 500 удзельнікаў грамадскіх акцыяў.

Нарэшце, падставаю да ўздыму апошняй хвалі гвалту стала барацьба розных палітычных сілаў. У апошні тыдзень студзеня ў Тыране адбыліся напады на двух уплывовых дзеячаў апазіцыі: аднаго з кіраўнікоў апазіцыйнай сацыялістычнай партыі і на вядомага ў краіне публіцыста. Вінаватых не знайшлі, і гэта ўзмацніла падазрэнні людзей: у краіне дзейнічаюць нелегальныя праўрадавыя "групы помсты".

**Падрыхтаваў У.П.**

# Незалежнасць — перш за ўсё

На пачатку лютага Ціму Гульдыману — швейцарскаму дыпламату і кіраўніку місіі ў Чачні Еўрапейскай арганізацыі для бяспекі і супрацоўніцтва — было прапанавана неадкладна пакінуць межы рэспублікі Ічкерыя. Заява гэткага зместу была апублікаваная прэс-сакратаром тагачаснага прэзідэнта рэспублікі Зелімхана Яндарбіева. Што стала прычынай гэткіх жорсткіх дзеянняў?

За дзень да таго кіраўнік місіі АБСЕ назваў Чачню непадзельнай часткаю тэрыторыі Расіі. Гэтага было дастаткова. "Міністэрства замежных справаў рэспублікі Ічкерыя, — было сказана ў адпаведным дакуменце, — ўважае немагчымым далейшы побыт Гульдымана на тэрыторыі рэспублікі".

Тое, што адбылося, паказвае, да якой ступені цяжкой будзе бліжэйшая будучыня чачэнскага народа. Яго лідэры заяўляюць: праблемы, якія выклікалі вайну, урэгуляваныя, засталося адно — публічнае прызнанне Расіяй незалежнасці Чачні. Аднак усё аказваецца больш складаным. У жніўні летась было падпісанае пагадненне аб тым, што статус Чачні будзе вызначаны на працягу наступных пяці гадоў. Але кіраўніцтва Чачні разумее пад гэтым атрыманне рэспублікай незалежнасці ад Расіі, а расійскі ўрад — пацвярджэнне ранейшага статуса Чачні як часткі федэральнай Расіі.

Абодва бакі канфлікту разумеюць значэнне ў вырашэнні праблемы пазіцыі міжнароднай супольнасці, у прыватнасці АБСЕ. Але на канфлікт з гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыяй дзяржаўнае кіраўніцтва Ічкерыі пайшло, як можна разумець, свядома. Бо суверэнітэт для яго важнейшы за добрыя стасункі з кім заўгодна.

**У.П.**

## Хто першым сказаў "о'кэй"

Цяпер гэтае слоўца стала сапраўды інтэрнацыянальным. Вы прамаўляеце: О'кэй — і ваш суразмоўца адразу ведае: у вас усё ў парадку. У той жа час выраз лічыцца самым што ні ёсць амерыканскім.

Тым часам пра тое, дзе ўпершыню з'явіўся крылаты выраз-скарачэнне "О. К.", вучоныя працягваюць спрачацца да гэтага часу. Амерыканскія лінгвісты прытрымліваюцца тэорыі, згодна якой стваральнікам "О'кэй" стаў журналіст Ч. Грыін, які 28 сакавіка 1839 года ўпершыню ўжыў на старонках газеты "Бостан морнінг пост" фанетычнае скарачэнне выразу "олл коррэкт" — "О. К.".

Але ёсць і яшчэ адна цікавая тэорыя. Як мяркуюць, "О. К." ужываўся ажно ў старажытнагрэцкай мове. Аказваецца, у антычнай Грэцыі настаўнікі ставілі гэтыя літары пад пісьмовымі працамі сваіх вучняў: "О" — замест "Ола" (усё), а "К" — замест "Кала" (добра).

**Л. М.**

